# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня**. **Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая паражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

№ 6. Вільня, Нядзеля, 12-га кастрычніка 1924 г. Год I.

## Адвагі!

У кожным нумары нашае газэты мы друкуем карэспандэнцыі з вёсак аб жаданьні адкрыць *беларускую школу* ці перарабіць накінутую нам супраць волі народу польскую школу—на беларускую.

У Беларускую Цантральную Школьную Раду прыгавары аб беларускіх школах наплываюць дзесяткамі. Але, ня глядзячы на гэта, справа, як стаяла, так і *стаіць на нейкім мёртвым пункце*.

Школьныя інспэктары ня толькі не дазваляюць на новыя беларускія школы, але сьпяшаюцца зачыняць старыя, істнаваўшыя па некалькі гадоў.

Пан старшыня ўраду заяўляў дэлегацыі беларускіх паслоў, што ўжо ёсьць новая інструкцыя ў гэтай справе. Але з газэт мы даведаліся, што аб гэтай інструкцыі йшчэ толькі йдуць гутаркі ў палітычным камітэце міністраў...

Усё гэта—дужа невясёлыя праявы, якія могуць зьнеахвоціць нашае сялянства да клапотаў аб роднаю школу. Гэта — *ігра на нэрвах*...

Польскі ўрад, відаць, не забывае слоў Гіндэнбурга, які казаў, што ў сусьветнай вайне пераможа той, у каго акажуцца мацнейшыя нэрвы. І—б'ець нас па нэрвах!

Але, як ні крэпкія нэрвы маюць паны міністры, мы павінны паказаць, што *нашы — крапчэйшыя*!

Штодзеннае жыцьцё навучыла нас умець панаваць над сваімі нэрвамі. Таптаньне канцэлярскіх парогаў, выстаіваньне цэлымі днямі перад дзьвярыма „ўрадаў“, калі бывае да іх нейкая патрэба, —усё гэта загартавала нашыя нэрвы і прывучыла ўпорна даходзіць свайго.

І мы *даб'емся свайго*. Трэба толькі мець *веру* ў свае права, трэба мець *адвагу* даходзіць яго.

Нядаўна па Заходняй Беларусі езьдзіў адзін амэрыканец, які хацеў пазнаёміцца з беларускім народам. Прыглядзіўшыся да тэй вялікай, хоць нязвычайна цяжкой культурнай працы, якую нашае грамадзянства вядзе ў немагчымых, бяспрыкладных варунках, наслухаўшыся ад саміх сялян аб усіх страшэнствах пануючага на нашай зямлі палітычнага „рэжыму“, наш амэрыканскі прыяцель з глыбокім перакананьнем сказаў на разьвітаньне:

— Вы, як народ уцісканы, маеце ў сабе вялікую маральную сілу. Перад вамі — вялізарныя дасяганьні. Мейце толькі *адвагу* іх дабівацца. Будучына—ваша!

Вось, аб гэтай адвазе мы цяпер і гаворым. Няхай там неляяльныя ўрадоўцы стаўляюць нам розныя перашкоды, няхай страшаць хоць-якімі карамі, — мы не павінны на гэта зварачаць увагі, а цьвёрда дабівацца свайго.

За намі—*справядлівасьць*, за намі—*права*!

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

## Водгукі катаваньня беларускіх гімназістаў.

### Адзін з катаваных аглух!

Беларускае грамадзянства напэўна не забыла дзікага факту катаваньня дунілавіцкай паліцыяй (у сярэдзіне жніўня гэтага году) двух вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі: К. Янэля і Л. Бабровіча.

Як апісываў, паводле слоў пацярпэўшых у № 4 „Сын Беларуса“, нет ведама ў чым „правініўшыхся“ (бо-ж пасьля катаваньня яны былі звольнены!) гімназістаў катавалі „агульна ўжыванымі“ ў нас мэтадамі:

„Загадаўшы нам перш разуцца, скавалі нам рукі і, залажыўшы іх за калені, устаўлялі палку паміж рук і ног, пасьля чаго пераварочвалі ніц і білі ў пяты нейкай валавянай булавой—так моцна, што ажно ў мазгі калола і трацілі прытомнасьць. Па гэтай апэрацыі таптаілі нас нагамі, білі па твару і галаве, а потым пакідалі на тры гадзіны ў супакоі, каб апрытомнець, пасьля чаго пачынаўся той самы зьдзек ды катаваньне....“

Справу гэтую ў сярэдзіне верасьня Дырэкцыя Гімназіі пакіравала да п. Дэлегата Ураду. У сувязі з гэтым 8 гэтага кастрычніка, у прысутнасьці Дырэктара Гімназіі, адбылося паліцэйскае дазнаньне, на якім высьнілася, што ў **выніку катаваньня вучань Кузьма Янэль аглух на левае вуха.**

Доктарская экспэртыза, зробленая доктарам Вонсовскім у вучнёўскай амбуляторыі, сканстатавала, што **ў Кузьмы Янэля лопнула барабанная балонка ў левым вусе.**

Калі-ж гэта будзе канец гэтых зьдзекаў польскае паліцыі над беларускімі дзяцьмі?

## Да упадку Мак-Дональда.

Гадоў трыццаць таму назад у сацыялістычнай прэсе ўсяе Эўропы йшла вельмі гарачая і вострая палеміка ў прынцыповым пытаньні: ці сацыялістам гожа ўваходзіць у склад буржуазных урадаў, або нават і браць у свае рукі кіраўніцтва палітычным жыцьцём у капіталістычных гаспадарствах?

Тое, што палеміка прыймала вельмі вострыя формы, найлепш сьведчыць, што і староньнікі ўчасьця сацыялістаў у буржуазных урадах і іх супраціўнікі мелі, на пагляд, вельмі слушныя доказы—кожын на карысьць свайго пункту гледжаньня. Першыя адзначалі, што ўчасьце сацыялістаў у ўрадах дае ім магчымасьць аблягчаць работніцкай клясе барацьбу за яе правы і абарону ад вызыску з боку капітала. Другія стаўлялі пытаньне: якія-ж мы былі-б сацыялісты, калі-б, маючы ўладу, не адважыліся ўжыць гэтае ўлады дзеля зьдзейсьненьня ў поўнай меры ўсіх сацыялістычных ідэалаў? І яны адмаўляліся працаваць пры такіх варунках, пры якіх ім трэ' было-б прыкладаць руку да ўмацаваньня капіталістычнага ладу.

Першы пагляд тады пераважыў, хоць праціўная старана не здавалася ні на якія доказы. І мы бачылі і ў даваенныя часы, і падчас вайны блізу ў-ва ўсіх эўрапэйскіх гаспадарствах сацыялістычных міністраў.

Роля іх, аднак, аказалася дужа няўдзячнай. Палажэньне працоўных масаў нічога не зьмянілася. Перашкодзіць вайне яны ня здолелі...

І пад той час, як у Заходняй Эўропе ўрады—з учасьцем сацыялістаў — вялі крывавую барацьбу за інтарэсы сваіх капіталістаў, канкуруючых на міжнародавых рынках,—на Усходзе пераважыў той другі пагляд, які гаварыў: або зусім сацыялістам ня браць улады, або, калі браць, дык дзеля правядзеньня сацыяльнае рэвалюцыі. Гэта-ж і ёсьць істота расейскага бальшавізму.

На Захадзе мы бачылі чыста сацыялістычны ўрад Мак-Дональда, які астаўся верным традыцыям Другога Інтэрнацыяналу, прызнаўшага, што ў сучасны мамэнт сацыялізм павінен стаяць выключна на грунце **абароны** работніцкае клясы і **эвалюцыйнага** дасяганьня сацыялістычных ідэалаў. Мак-Дональд напярэдадні свайго ўпадку выразна заяўляў, што англійскі сацыялізм—далёкі ад прыняцьця сыстэмы барацьбы, якую павялі ў ССРР камуністы, перайшоўшы ад абароны да **наступленьня** проці капіталістычнага ладу.

Урад Мак-Дональда, які надовячы пацярпеў паражэньне ў англійскім парляманце, за ўсе дзесяць месяцаў свайго ўрадаваньня зусім не пасунуў работніцкую справу наперад. Не дарма польская буржуазная прэса трыумфуе, кажучы, што „ўрад Партыі Працы паступаў не як сацыялістычны ўрад, а як звычайны буржуазыйны ўрад“.

Тым больш характэрна **прычына** яго ўпадку. Кансэрватары і лібэральная буржуазія, якая не дала ўраду Мак-Дональда „быць сацыялістычным“, не сьцярпела нават і таго, што ён падпісаў **тарговую ўмову з камуністычнай дзяржавай** — ССРР, памкнуўшайся зрэалізаваць да канца сацыялістычную праграму. І хоць за **повад да** зваленьня Мак-Дональда была выбрана справа Кемпбэля, якога прэм'ер загадаў выпусьціць з вязьніцы і спыніць судовае перасьледаваньне, але і тут можна дагледзіць страх англійскае буржуазіі перад чынным, актыўным камунізмам: Кемпбэль—гэта-ж рэдактар **камуністычнае** газэты...

Праўда, вышэйсказаныя крокі былі зроблены Мак-Дональдам пад націскам англійскае работніцкае масы, пагражаўшай свайму правадыру — ў прыпадку яго адмовы падчыніцца—пазбаўленьнем падтрыманьня з боку Партыі Працы. І гэтую падробнасьць гожа прыпомніць, калі будзем гадаць аб далейшым ходзе выпадкаў у Англіі.

Справа ў тым, што, як буржуазія ждала ад Мак-Дональда „сацыялістычных экспэрымэнтаў“, дрыжучы перад імі ад страху, так працоўныя масы ждалі таго-ж самага, толькі з надзеяй і верай у сьвятлейшую будучыну. Страхі буржуазіі ня зьдзейсьніліся, але... ня зьдзейсьніліся і лятуценьні работнікаў!

Затое-ж буржуазія трыумфуе: тое, што Мак-Дональд, заняты перадусім справамі замежнае палітыкі, спадзяваньняў працоўных масаў ня зьдзейсьніў (—бо і ня мог зьдзейсьніць эвалюцыйным шляхам за дзесяць месяцаў свайго ўрадаваньня!), буржуазная прэса тлумачыць, як крах сацыялізму наагул, як яго поўную кампрамітацыю перад работнікамі. І яна адчасьці мае рацыю: лінія паступаньня сацыялістычных партыяў Другога Інтэрнацыяналу запраўды ўжо зьяўляецца нейкім перажыткам і ў варунках капіталістычнае гаспадаркі захавала толькі сацыялістычнае імя, а сацыялістычны зьмест даўно з яе выветрыўся....

Новыя выбары, назначаныя на 29 гэтага месяца, павінны паказаць, ці англійскія работнікі маюць ужо сьвядомасьць, што старая сацыялістычная тактыка аджыла свой век, і ці патрэба шуканьня новых дарог дасьпела ўжо ў англійскіх працоўных масах. Лічба галасоў, пададзеных за Мак-Дональда лібэральнай буржуазіяй, і лічба адпаўшых работніцкіх галасоў будзе мерай ідэйнага паражэньня ўнутранае палітыкі Партыі Працы. Дык за англійскімі выбарамі будуць пільна сачыць ня толькі самі англічане, але і ўвесь сьвет, а перадусім сацыялісты ўсяго сьвету.

**К. Фалькевіч.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Добры прыклад для моладзі!

Прэзыдыум агульна-польскага саюзу братняй помачы (студэнтаў Унівэрсытэтаў) сцьвярджае рад фальшаў, якія зьмясьціў міністар асьветы, п. Міклашэвскі ў сваім камунікаце аб размове з дэлегацыяй гэтага саюзу.

Былі ў Польшчы розныя міністры, але такога, як п. Міклашэвскі (эндэк), яшчэ ня было: ён перагнаў нават знамянітага п. Куманецкага, які ў вядомым „вывадзе“ ў кракаўскай газэце „Czas“ зусім сьвядома маніў аб тым, што рабіў з праваслаўнай царквой у Польшчы...

Добры прыклад даюць польскай моладзі найвышэйшыя кіраўнікі яе ўзгадаваньня!

### Абарона граніцы.

Як падае „Dz. Wil.“, польска-літоўскую і польска-латвійскую граніцу будзе сьцерагчы надалей дзяржаўная паліцыя.

Толькі абарону польска-радавай граніцы, а перадусім у ваяводзтве Палескім, возьме на сябе новаўтвораны „корпус пагранічнай старожы“.

### Зьезд ваяводаў.

У канцы гэтага месяца ў Варшаве мае адбыцца зьезд ваяводаў усей Польшчы, на якім будуць разглядацца толькі справы рэарганізацыі адміністрацыі на заходніх і ўсходніх „крэсах“.

Палітычныя пытаньні, быццам будуць, зусім выключаны з разгляду паноў ваяводаў...

### Прапазіцыя СССР у справе бандытызму.

Радавы ўрад прыслаў польскаму ўраду ноту, прапануючую склікаць канфэрэнцыю, якая-б занялася спосабамі барацьбы з бандытызмам на польска-радавым пагранічча.

### Забойства сьвяшчэньніка.

„Kur. Poran.“ падае, што 7-X ў Раве Рускай (у Галіччыне) забіты кінжалам у царкве двумя няведамымі людзьмі сьвяшчэньнік Дурколь з сынам.

Газэта дадае, што сьв. Дурколь быў „вельмі чынным прыхільнікам старавераў-палянафілаў, пашыраўшых сярод сваіх парахвіян ідэю польскае дзяржаўнасьці і брацтва з палякамі“, ды што „забойства мае чыста палітычны характар“.

### Напады ў Вялейшчыне.

1-X ў 10 гадз. вечара банда ў 15 асоб напала на в. Длугавое, Вялейскага пав. Акружыўшы дом, нападаўшыя кінулі ў сярэдзіну бомбу.

Уласьнік дому прабіўся скрозь бандытаў і прывёў паліцыю. Атрад паліцыі і войска кінуўся ў пагоню, але без рэзультату („Robotn.“).

### Сьмяротны прысуд у Наваградку.

8-X даразны суд засудзіў на сьмерць Андрэя Тарасевіча, якому закідалася ўчасьце ў аружным нападзе на маёнтак Грабоўшчына.

Прысуд споўнены 9-X.

## Заграніцай.

### Роспуск англійскага парляманту.

9/X ў 12 гадз. папалудні кароль падпісаў дэкрэт аб роспуску парляманту.

На апошнім паседжаньні парляманту Мак-Дональд прачытаў дэкрэт караля, дадаўшы, што новыя выбары адбудуцца 29 гэтага кастрычніка. Абшырнае экспозэ аб намерах і плянах ураду прэм'ер мае зрабіць на зьезьдзе партыі працы.

### Правадыры Партыі Працы ня трацяць гумору.

На канфэрэнцыі работніцкай партыі адзін з яе лідэраў (правадыроў), Кляйне, сказаў, што паражэньне толькі прычыніцца да вялікшай перамогі на новых выбарах.

Ведама, усё будзе залежаць толькі ад таго, з якой праграмай партыя працы пойдзе на выбары.

### Жонка Л.-Джорджа — паслом у Парляманце.

Жонка Л.-Джорджа выстаўляе сваю кандыдатуру на новых выбарах у Англіі.

### Англа-турэцкі канфлікт завастраецца.

Англійскі пасол у Канстантынопалі падаў турэцкаму ўраду ноту (ультыматум?), у якой трэбуе неадкладнага вываду з Мосулу (у Мэсапатаміі) турэцкіх войск.

На „ультыматум“ англійскага ўраду Турцыі аб вывадзе турэцкіх войск з Мосулу турэцкі ўрад адказаў тым, што паслаў у гэты віляпет (округ) новыя войскі, якія занялі важныя стратэгічныя пункты.

### Амэрыка і „пратакол“ Лігі Народаў.

Прэзыдэнт Кулідж адмовіўся падпісаць „пратакол“, апрацаваны на апошняй сэсіі Лігі Народаў, як абмяжоўваючы самастойнасьць і незалежнасьць палітыкі яго краю.

### Усходняя Прусія — проці Лігі Народаў.

Усе патрыятычныя саюзы Усходняе Прусіі выдалі адозву, у якой заклікаюць нямецкі народ не ўваходзіць у склад Лігі, пакуль ня будуць вернены Нямеччыне яе ўсходня-прускія землі.

### Справа рэканструкцыі нямецкага ўраду.

Нямецкі канцлер (прэм'ер) падаў партыям апрацаваныя ім варункі стварэньня коаліцыйнага ўраду:

1) Канстытуцыя 1919 г. — адзіная падстава дзяржаўнага жыцьця Нямецкай Рэспублікі;

2) Ляяльнае выпаўненьне трактатаў і ўваход у Лігу Народаў на падставе нямецкага мэморыялу дзяржавам;

3) Задачай ураду будзе сацыяльнае забясьпечаньне працоўных, паскольку на гэта пазволяць фінансы;

4) Палітыка падтрыманьня ўнутры і заграніцай нямецкай прамысловасьці.

Нямецкія людоўцы лічаць гэтыя варункі слушнымі і згадзіліся іх прыняць.

Каталіцкі цэнтр таксама прымае прапазіцыю Маркса.

Сац.-дэм. фракцыя і нацыяналісты вынясьлі рэзалюцыі, пахваляючы палітыку сваіх прадстаўнікоў і даручаючы ім вясьці перагаворы з прэм'ерам.

### Стрэлы ў нямецкае пасольства ў Коўні.

Вялікі шум узьняўся ў нямецкай і літоўскай прэсе з прычыны стралянiны ў гмах нямецкага пасольства ў Коўні. Нямецкая прэса вінаваціць у гэтым літоўскіх шаўлісаў; літоўская-ж прэса піша, што гэта — правакацыйныя стрэлы нямецкай нацыяналістычнай баёўкі...

# Польска-маскоўская змова.

Ідэя польскіх нацыяналістаў: пагадзіцца з Масквой коштам беларусаў, падзяліўшы іх між сабою і „ў чатыры рукі“ зьніштожыўшы жывы беларускі народ, — як ведама, знайшла самае яркае адбіцьцё ў Рыжскім міравым трактаце і ў далейшай палітыцы Польшы на землях Заходняе Беларусі. Праўда, расейская радавая ўлада, узяўшы новы курс у нацыянальным пытаньні, адцуралася ад гэнае ідэі. Затое яе падхапілі маскоўскія нацыяналісты — „белыя“, якія на тэрыторыі Латвійскае рэспублікі зрабілі цесны **маскоўска-польскі саюз дзеля барацьбы з беларускім нацыянальным рухам у Латгаліі.**

Вельмі цікавыя ведамасьці аб гэтым саюзе падае карэспандэнт газэты „Robotnik“ у № 260:

Паход проці беларусаў распачаўся на грунце нацыянальнае школы. Кіраўнік польскага аддзелу ў міністэрстве асьветы, п. Келпш, у суполцы з адзіным польскім дэпутатам у латвійскім сойме, п. Вежбіцкім, пачалі даказываць, што ані ў Дрысенскім павеце, ані наагул у Латгаліі **няма ніякіх беларусаў: ёсьць толькі палякі і расейцы.** П. Келпш падаваў аб гэтым абшырныя рапарты міністру асьветы, а пан пасол паўтараў гэта з соймаве трыбуны пры кожнай нагодзе.

„Гэта,—піша карэспандэнт „Rob.“,—была вада на млын прадстаўнікоў расейскае меншасьці—такое неспадзяванае павялічэньне іх стану ўладаньня ў Латвіі: да 100 тысячаў аселых тут расейцаў далічаюцца яшчэ 70 тысячаў „новарасейцаў“ (беларусаў), ды гэтак расейская меншасьць удвая пабольшала за польскую (80 тысячаў).

„Палітыка п. п. Келпшаў, Вежбіцкіх і камп. ня прыдбала нам ніводнага паляка, але затое **настроіла проці нас беларусаў.**

Ужо зьдзекі польскага войска ў 1920 годзе трохі ахаладзілі ранейшую прыхільнасьць (да палякоў) сярод беларускага жыхарства, але гэта яшчэ ўскладалася на рахунак ваеннага бязладзьдзя. Затое цяперашнія спэкуляцыі мелі той вынік, што дрысенскія **беларусы пачалі арыентавацца ў кірунку Радавае Расеі.**

„Несьвядома гэтаму дапамае латвійская ўлада (як у Польшчы—польская!—*Рэд.*). Напалоханая беларускім рухам у Польшчы, аб якім тут ходзяць крэпка пабольшаныя чуткі, улада загадала арыштаваць рад выдатных беларускіх дзеячоў. У Дзьвінску апынуліся пад замком блізу ўсе вучыцялі беларускае гімназіі. Ходзяць чуткі аб праектаванай **ліквідацыі беларускага школьнага аддзелу, чаго энэргічна дабіваюцца, як расейцы, так і палякі.** Палякоў ад гэтага не пабольшае, але бальшавікоў—дык напэўна пабольшае! Да абмаскоўленьня беларусаў прычыняецца мяйсцовая адміністрацыя, зложаная выключна з латышоў, якія ўмеюць толькі палатышску і парасейску. А як латышскае мовы народ не разумее, дык урадаваньне адбываецца парасейску“.

Вось абраз, намаляваны **польскім** карэспандэнтам, весткі якога зусім згодныя з весткамі, якія да нас даходзяць і з беларускіх крыніцаў. Новым для нас зьяўляецца толькі адзін факт, расказаны карэспандэнтам „Rob.“: аб тым, як прыхільна беларусы ў Латгаліі аднасіліся **сьпярша** да палякоў.

Справа ў тым, што, дзякуючы „працы“ п. Клепша, польскае насяленьне ніяк не магло дажадацца школы ў роднай мове. Тады беларусы згадзіліся **пры сваіх школах (беларускіх)** адкрываць раўналежныя **польскія клясы** (напр. у Нэвлянах), якія ўтрымліваліся часьцю на кошт грамадзянства, часьцю—**на кошт беларускага аддзелу.**

Добрую-ж „аддзяку“ дасталі латвійскія беларусы **за сваю братнюю дапамогу палякам:** адказам на яе, як піша „Robotnik“, і зьявіўся гэны нягодны **польска-маскоўскі проціберарускі саюз!**

# Праўда аб „палітычным бандытызме“.

(Глядзі № 4 „Сялянскае Праўды“.

### Нястойкі „дух панаваньня“ на „Крэсах“...

З таго вельмі характэрнага і ўжо агульна прызнанага факту, што з усяго польскага цягніка на беларускіх „Крэсах“ — цягніка з узброенымі „да зубоў“ паліцыянтамі, жандарамі і вайсковымі— знайшоўся **толькі адзін**, што адважыўся бараніцца проці напаўшых, а рэшта ў паніцы — пакорна здалася „на ласку пераможцаў“,—мы зрабілі, быццам, бясспрэчны вывад аб пэўнай і вельмі небясьпечнай **„нястойкасьці псыхікі“** тэй улады, якая, здавалася-б, гэтак цьвёрда пануе над безаружным насяленьнем „Крэсаў“ пры дапамозе перадусім збройнай сілы арміяў, як гэта сцьвярдзіў у знамянітай віленскай прамове п. Прэзыдэнт Вайцехоўскі

„Дух панаваньня“—маральна-псыхічная падстава рэальнай улады, ня гледзячы на ўсю яе фізычную матар'яльную моц, аказаўся (як сцьверджана і польскай прэсай) такім „неўстабілізаваным“ (як год назад польскя марка!), што ня толькі зьяўленьне ўваружанага ворага, але нават адна, мысль аб гэтым ворагу (—ў пастаці стрэлаў няведама адкуль!) зьмяняе гэны „дух панаваньня“ на „дух патульнасьці“ і пакоры, ад якога цяпер так чырванее з абурэньня і сораму польскае грамадзянства... Перад намі міма волі ўстае з мёртвых карыкатурная фігура „абаронцы Вільні“ генарала Борушчака...

**„Народы перасталі баяцца“!—Куды-ж дзеўся гэты былы страх?**

З прычыны таго, што мы зусім шчыра ня можам, сьледам за пагардлівай ацэнкай „Dz. Wil.“, лічыць **увесь польскі народ у сябе дома, у сваім родным краю „палахлівай** таўпой, папіханай выпадкам“, мы павінны знайсьці нейкае аб'ектыўнае тлумачэньне тэй „нястойкай псыхікі“, якая вытвараецца ў прадстаўнікоў гэтага польскага народу—**на „Крэсах“.**

Псыхіка людзкая,—як вучыў вядомы нямецкі філёзоф,—паміма розных індывідуальных і нацыянальных асаблівасьцяў, залежыць у галоўных сваіх падставах ад таго, што мы наагул звалі „духам часу“, ды што гэты філёзоф—у сваей характэрнай мове—назваў „сусьветным станам“.

А з прычыны таго, што гэты „сусьветны стан“ людзкасьці азначаецца перадусім мерай і сумай дасягнутай і замацаванай у сьвядомасьці народнай **свабоды**, дык зусім ясна, што ўсякая псыхіка, якая ў сваей дзеяльнасьці ў сьвеце будзе ісьці проці гэтага „сусьветнага стану“, проці гэтай „меры Волі“ ў сьвядомасьці народаў, — ня будзе мець найважнейшай, наймацнейшай апоры ў гэтым „агульным стане сьвету“. Кажучы інакш, гэтая псыхіка, вельмі моцная індывідуальным ці нацыянальным „суб'ектывізмам“,—будзе **аб'ектыўна-нястойкай.** А гэта значыць, што гэткая псыхіка будзе стойкай толькі ў **штучных варунках жыцьця, з якіх выкінуты магутныя фактары—ўзгадавальнікі запраўднай сілы: барацьба і канкурэнцыя—ў варунках волі і роўнасьці.**

І вось,—ці-ж ня дзіўнае зьявішча мы можам заўважаць, як зусім агульнае, на нашых „Крэсах“?! Народ беларускі, пабіты, паняволены, тэрарызаваны,—безаружны і безбаронны,—зусім неяк ня мае ніякага страху!.. Ён толькі больш-менш цярпліва зносіць усё, што паслаў яму лёс, **ведаючы** (ня толькі веручы!), што гэта ўсё—нявечнае...

Вось, гэты былы страх паняволеных, гвалтаваных народаў цяпер ужо неяк—дзіўным шляхам —перайшоў у псыхіку тых магутных, уваружаных, што над імі пануюць..

Як бачым з прыкладу „псыхікі лунінецкага цягніка“, гэты страх заўсёды жыве ў польскай пануючай душы на беларускіх „Крэсах“ у нейкім „потэнцыяльным стане“...

„Народы перасталі баяцца, пачуўшы сябе запраўднымі гаспадарамі сябе саміх і дараванай ім Богам-Прыродай зямлі“—вось тая магутная непераможная „азнака часу“, якая выражае дасягнутую ўжо беспаваротна і замацаваную ў сьвядомасьці народаў **меру свабоды.**

І ўсе тыя сьмяротныя страхоцьці, якім калісьці гарантавалася пакорнасьць народаў уладзе, якімі паралiжаваліся ўсе іх спробы „бунтаў“ проці „законнай, ад Бога пастаўленай улады“, — усе гэтыя страхі перайшлі ў душы тых, хто хоча павярнуць кола гісторыі назад, уваскрасіць тое, што памёрла, як засуджанае прагрэсам Вольнасьці ў сьвеце...

### Проці „сусьветнага стану“...

Што гэта — бясспрэчна так, што з гэтага **агульнага закону** няма і ня можа быць ніякага вынятку, найляпей сьведчыць прыклад, быццам

